# Права на волю

№8

Красавік 1998

Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна—96"




# За што караеце?

У міжмітынгавыя і міжпікетавыя дні самай небясьпечнай на Беларусі справай стала распаўсюджваньне незалежнай прэсы. На людзей, што каля падземных пераходаў ці скрыжаваньняў вуліц прадаюць газеты, у любы момант, без ніякіх тлумачэньняў, могуць напасьці міліцыянты, канфіскаваць "тавар" і адвесьці ў пастарунак. Далей сістэма таксама адпрацаваная: складаецца пратакол, заводзіцца "справа", адбываецца суд, на якім пацярпеламу ад міліцыянтаў гандляру прысуджаецца грашовы штраф.

У асаблівую няміласьць да уладаў патрапілі распаўсюджвальнікі незалежных газетаў "Навіны", "Народная воля", "Имя", "Беларусская деловая газета", "Здравый смысл" ды іншыя. У многіх з такіх гандляроў па некалькі "прыводаў" у суд і пакараньняў штрафам. Своеасаблівым рэкардсменам зьяўляецца Мікалай Раманаў (дарэчы, адзін з арыштаў яго амапаўцамі вы бачыце на гэтым здымку з архіва "ПВ"), які быў аштрафаваны каля дзесяці разоў. Паколькі Мікалай зьяўляецца

*(Працяг на стар. 2-3)*

# Хроніка

***Вясною 1998 г.*** — грамадзянін Беларусі Уладзімір Матылёнак, з жонкай і двума дзяцьмі папрасіў палітычнага прытулку ў Чэхіі. У Беларусі ён ачольваў Верхнядзьвінскую Раду БНФ "Адраджэньне", што ў Віцебскай вобласьці, за што быў звольнены з працы і на працягу двух гадоў ня мог працаўладкавацца.

***На пачатку красавіка*** — міністэрствам юстыцыі папярэджаны Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне" за дробныя фармальныя парушэньні ў афармленьні дакументацыі. Пры паўторным парушэньні "можа быць ўзьнятае пытаньне аб ліквідацыі партыі", гаворыцца ў дакуменце.

***У сярэдзіне красавіка*** — трое студэнтаў і школьнік у Віцебску правялі пікет супраць забароны прэзідэнтам А.Лукашэнкам другога дня Вялікадня як сьвята. Яны былі затрыманыя, улёткі з іхнімі патрабаваньнямі канфіскаваныя.

***У сярэдзіне красавіка*** — студэнт з Магілёву Ясь Абадоўскі, выключаны з інстытуту па палітычных меркаваньнях, неаднаразова рэпрэсаваны беларускімі уладамі за актыўную палітычную дзейнасьць, папрасіў у Польшчы палітычнага прытулку.

***17 красавіка*** — у газеце "Народная Воля" абмяркоўваецца ліст жыхароў в.Пліса Смалявіцкага р-ну, якія пратэстуюць супраць сьмяротнага выроку іхняму аднавяскоўцу Ігару Ляшкевічу, абвінавачанаму і асуджанаму, па іхняму перакананьню, несправядліва.

*(Працяг на стар. 6)*

# Не пытай, па кім звоніць звон...

## 25 красавіка ў Менску адбыўся традыцыйны "Чарнобыльскі шлях", які зноў скончыўся арыштамі

Дванаццаць гадоў таму, 26 красавіка 1986 года, Беларусь прачнулася ў іншым сьвеце. Жыцьцё, гісторыя падзяліліся на "...да Чарнобыля" і "пасьля Чарнобыля..." Мажліва, яшчэ прайшло зусім мала часу, каб асэнсаваць, што ж адбылося ў тыя вясновыя дні, але хутчэй за ўсё нам проста ня дадзена зразумець усю жахлівасьць трагедыі, якая напаткала беларускі народ. Поўную праўду дазнаюцца толькі нашыя нашчадкі...

Аднак тое, што мы ведаем, што бачым, адчуваем — вымушае нас да дзеяньня. Праўда, адзінае, што мы можам сёньня зрабіць, гэта ня даць уладам спакойна і абыякава назіраць за пакутамі людзей, пастаянна нагадваючы ім, што з гадамі чарнобыльская трагедыя не аддаляецца ад нас, а набліжаецца...

Вось таму і выйшлі 25 красавіка каля дзесяці тысячаў менчукоў, а таксама жыхароў пацярпелых ад чарнобыльскае бяды раёнаў на праспект Скарыны, каб прайсьці сімвалічным "Чарнобыльскім шляхам". Папераздзе шэсьця жанчыны несьлі абраз "Маці Божай ахвяраў Чарнобыля", за ёй ішлі дзеткі з папяровымі буслікамі ў руках, далей — мора бела-чырвона-белых сьцягоў з жалобнымі чорнымі стужкамі. І гукі звона над калонаю...

Паколькі стаўленьне прэзідэнта Беларусі да "чарнобыльцаў" і да самой трагедыі даўно вядомае (гэта ён скараціў усе чарнобыльскія праграмы, ільготы пацярпелым, распачаў прапаганду бясьпекі жыцьця ў "зоне" і г.д.), то акцыя мела і адкрыты антыпрэзідэнцкі характар. Пасярод калоны поўз аграмадны "вусень" — радыяцыйны мутант альбо сімвал дыктатуры — з надпісам на баку: "Я свой народ за цывілізаваным сьветам не павяду..." Дадалі "апазіцыйнасьці" акцыі і актывісты маскоўскага Антыфашысцкага маладзёжнага дзеяньня (АМД), якія прыехалі ў Менск са сваім траспарантам: "Жыве Беларусь! Лукашенке — капут!"

Шэсьце прайшло мірна, без правакацыяў з боку міліцыянтаў і людзей "у цывільным" і скончылася мітынгам на пляцы Парыжскай Камуны, каля Опернага тэатра. Выступоўцы казалі ня толькі пра Чарнобыль ядзерны, але і Чарнобыль духоўны, які пагражае сёньня будучыні беларускага народа.

Падзеі, пасьля завяршэньня мітынгу, разгортваліся, уласна, вакол маскоўскіх гасьцей. Беларускія міліцыянты, амапаўцы і тыя самыя "людзі ў цывільным" наладзілі сапраўднае паляваньне за прадстаўнікамі АМД. Калі праз гадзіну пасьля мітынгу яны выйшлі са штаб-кватэры БНФ, да іх пад'ехала некалькі аўтамашынаў з зацемненымі вокнамі, зь якіх выскачылі "людзі ў цывільным". Было схоплена каля сарака чалавек. З маскоўскай дэлегацыі выпадкова ўдалося ўратавацца толькі аднаму хлопцу.

Антыфашыстаў адвезьлі ў Савецкі райаддзел міліцыі, дзе на іх лідэра П. Казначэева і яшчэ 14 ягоных сяброў былі складзеныя пратаколы , паводле якіх яны абвінавачваліся ў "зьняваze гонару прэзідэнта" (пэўна, меўся на ўвазе той транспарант-лозунг), пасьля чаго іх даставілі ў сьпец-прыёмнік.

Расійскае пасольства адразу паспрабавала заступіцца за сваіх маладых суайчыньнікаў. Але адміністрацыя ізалятара адмовіла консулу У. Каралькову ў сустрэчы з затрыманымі. Тады пасольства Расіі накіравала ноту пратэсту ў МЗС Беларусі. Беларускія ўлады паабяцалі да 16 гадзін 26 красавіка расіянаў выпусьціць. Але дарэмна ў пасольстве накрылі сталы, каб пакарміць галодных хлопцаў і дзяўчат, дарэмна купілі ім білеты на цягнік на 18 гадзінаў. Затрыманых ня выпусьцілі...

Такім чынам, напярэдадні саміту кіраўнікоў дзяржаў СНД ў Маскве, паміж Беларусьсю і Расіяй насьпяваў калі не дыпламатычны канфлікт, дык непажаданы скандал . І тады беларускія ўлады далі задні ход: арыштаваных масквічоў пад канвоем прывезьлі на вакзал перад самым адыходам чарговага цягніка на Маскву. Міліцэйскі нарад суправаджаў антыфашыстаў ажно да Смаленска...

Потым выявілася, што беларускія ўлады ўсё-ткі пасьпелі "засудзіць" масквічоў: большасьці зь іх проста ў сьпецпрыёмніку вынесена "папярэджаньне", а некалькім штрафы ў 200 тысяч беларускіх рублёў. Можна сказаць, што расіяне лёгка "адзеліся", бо па беларускіх "законах" некаторым зь іх сьвяціла ўзбуджэньне крымінальнай справы за заклік да забойства прэзідэнта (лозунг "Лукашенке — капут")...

Дзіўна, але расійскія СМІ, і найперш тэлебачаньне, замаўчалі арышты сваіх суайчыньнікаў у Менску. Прайшоў толькі адзін сюжэт па ОРТ. Пра арышты ж некалькіх дзесяткаў грамадзянаў Беларусі, што адбыліся ў гэты дзень і зусім не сказана ні слова. А між тым, расійскія антыфашысты мелі магчымасьць пераканацца, што з беларусамі ў менскіх пастарунках абыходзяцца значна больш жорстка (пра гэта яны сьведчылі потым), груба і бязьлітасна...




**А. ЧАС**

# За што караеце?

(Пачатак на стар.1)

беспрацоўным, а гандаль газетамі — справа турботная, рызыкоўная і ня надта прыбытковая, то аплаціць штрафы яму няма чым. І цяпер М. Раманаву пагражае канфіскацыя маёмасьці...

Па некалькі "судзімасьцяў" маюць і іншыя распаўсюджвальнікі незалежных выданьняў — Г.В. Апанасевіч, З.С.Вольхава, А.М.Аліна ...

Між тым, дзеяньні міліцыянтаў цалкам незаконныя, безпадстаўныя. Адзінае, у чым можна абвінаваціць гандляроў газетамі — у парушэньні грамадскага парадку. Але якое ж гэта парушэньне, калі людзі ціха і мірна стаяць каля падземнага пераходу і трымаюць у руках газеты. Пры гэтым яны не крычаць, ніяк не "рэкламуюць" свой "тавар", нікому яго не навязваюць. Няма ў законе аб друку і забароны ці абмежаваньняў продажу накладу газетаў з рук. Таму многія незалежныя выданьні, якія дзяржаўны манапаліст-распаўсюджвальнік "Белсаюздрук" бярэ на продаж у розьніцу ня вельмі ахвотна

# "Сьвята працы" для ахоўнікаў рэжыму



Першамай, у адрозьненьне ад іншых савецкіх сьвятаў, амаль усюды на посткамуністычнай прасторы застаўся ў календарах. І амаль нідзе не трансфармаваўся да канца ў новую рэальнасьць. Хаця на зьмену чырвосьцяжным калонам з партрэтамі "правадыроў" і пераможнымі рапартамі прыйшло ўспрыманьне сьвята як "нялішняга выходнага дня" і "нібыта вясновага Новага году" — яго планамерна спрабуюць падфарбаваць у "чырвона"-савецкае.

У Беларусі гэта "афарбоўка" мае свае адметнасьці. Тут заклікі аднавіць Саюз гучаць мацней, а працоўныя ў сьвята працы ня могуць сказаць услых аб сваіх сапраўдных праблемах. Ні затрыманьня выплаты заробкаў, ні яго сярэднестатытычная мізэрнасьць — 60-70 даляраў (у сельскай гаспадарцы — 20-30) нібыта й няма! Як "няма" і дэфіцыту прадуктаў у крамах, альбо магчымасьці на практыцы абараніць сваё канстытуцыйнае права на працу...

Відаць, улады краіны адчуваюць: калі стварэньне першамайскага "ликования трудящихся" пусціць на самацёк, то сьвяткаваць на гарадскія плошчы выйдуць адно пенсіянеры, "вертыкальшчыкі" ды БПСМ. Таму ўжо ня першы год праўленьня прэзідэнта Лукашэнкі "вярхі" знаходзяць выйсьце для заахвочваньня "нізоў". Даюцца своеасаблівыя разнарадкі на прадпрыемствы, у навучальныя ўстановы, заранёй складаюцца адмысловыя сьпісы абавязковых добраахвотна-прымусовых удзельнікаў... Можна, вядома, зразумець, калі прайсьці ў калонах пад чырвонымі сьцягамі прагнуць старыя людзі: каму ня хочацца хоць гэткім чынам узгадаць маладосьць? Замест палітбюро, праўда, нясуць партрэты Лукашэнкі, часам — Леніна са Сталіным, значна радзей Машэрава. І сьцягі — не цяперашнія сцягі РБ, а БССРаўскія, зь сярпамі-молатамі. І ўсё ж частка гэтых дэманстрантаў аддае перавагу зялёным галінкам з папяровымі кветкамі, падобнымі да тых, што добрыя людзі нясуць у храмы на Вербную нядзелю. Але наўрад ці нехта ў "чырвоных" калонах здольны разважаць пра гэткія дробязі! Ня ў прыклад "фанатам" Сталіна з Лукашэнкам, большасьць згодна на абсалютна любое сьвята і разважае не пра працоўных, а пра неабходнасьць сеяць бульбу. "Хавацца ў бульбу", пэўна ж, прасьцей за ўсё...

Да калоны афіцыйнай дэманстрацыі далучыліся і беларускія сацыял-дэмакраты. Такія ж беларусы, такія ж працоўныя, яны ў Сьвята працы выйшлі на праспект Скарыны пад нацыянальнымі сьцягамі, каб запатрабаваць вызваленьня палітычных вязьняў, а для простых людзей — людскага жыцьця. Як і можна было чакаць, ніхто ім слова не даў: для ўладаў любая апазіцыя — "чужыя на гэтым сьвяце жыцьця". Зрэшты, не выступаў на Плошчы Незалежнасьці і ніхто з рабочых з-пад чырвоных штандараў. Паводле пісаных і непісаных законаў сёньняшняй Беларусі, тут можа казаць прамовы альбо мэр сталіцы Ярмошын, альбо сам прэзідэнт падчас вайсковых парадаў. А ўсе сьвяты ахоўваюць узмоцненыя атрады міліцыі.

Абедзьве калоны, афіцыйная і апазіцыйная (была яшчэ адна — радыкалаў-камуністаў, якую на тле беларускіх рэалій ніяк не залічыш да апазіцыі) мірна разышліся з плошчы. Кучка "адданых Першамаю" тоўпілася ля чырвонай сцэны пад аглушальныя роскаты танных расейскамоўных поп-песенек. Грукат і віскат з плошчы даволі моцна гучалі нават у храме паблізу — Чырвоным касьцёле, гвалтоўна прарэзваючы тутэйшую цішыню. Але сьвяткуючых "чырвоны дзень" гэта, падобна, не хвалявала. Замест Вялікадня ім цалкам даспадобы старыя помпа камуністычнага ўсеўмяшальніцтва!... Між тым пачалося паляваньне на ўдзельнікаў шэсьця сацыял-дэмакратаў. Яшчэ напярэдадні Менгарвыканкам дазволіў ім прайсьці па так званай "дыстанцыі для апазіцыі" — да опернага тэатру. Але "Народная Грамада" вырашыла паказаць, чыя насамрэч плошча, што носіць імя Незалежнасьці. На ўсяляхі выпадак, відаць, яшчэ перад самім шэсьцем 1 траўня лідэру "НГ" Міколу Станкевічу даставілі позву: зьявіцца ў Цэнтральны райсуд Менску ў гэты ж самы дзень.

Прыкладна праз гадзіну пасьля зьяўленьня калоны сацыял-дэмакратаў на плошчы Незалежнасьці ў раёне Вайсковых могілак на вуліцы Казлова былі схоплены міліцыянтамі лідэр маладзёвай арганізацыі сацыял-дэмакратаў "Маладая Грамада" Сяргей Марцэлеў і яго намесьнік Мікіта Колас. На Прывакзальнай плошчы ў гэты ж час (каля 12 гадзін) затрымалі сябра "НГ" Алеся Станкевіча і кіраўніка Асацыяцыі падтрымкі незалежнай прэсы Андрэя Завадскага. Затрыманьні праводзіліся аператыўнымі работнікамі крымінальнага вышуку, апранутымі ў цывільнае, і суправаджаліся зьбіцьцём. У Маскоўскі РАУС трапілі яшчэ восем сяброў "Маладой Грамады": двое непаўналетніх, якіх неўзабаве адпусьцілі, а таксама Зьміцер Марчук, Аляксей Герасімаў, Алесь Новікаў, Глеб Кухаронак, Кірыла Едзідзін, Павел Хаўроцін.

У пастарунку апынуліся на нядоўгі час фотакарэспандэнты Сяргей Грыц і Васіль Фядосенка. У 16.30 у штаб-кватэры "Народнай Грамады" быў арыштаваны і лідэр "НГ" Мікола Статкевіч.

Такім чынам, Дзень працы скончыўся для 12-ці беларускіх грамадзянаў зьбіцьцём, складаньнем працаколаў і "уік-эндам" у прыёмніку-разьмеркавальніку. У "чырвоны" дзень на Беларусі праліласа кроў мірных дэманстрантаў.

**Яна ЖДАНОВІЧ**

***P.S.*** У панядзелак, 4 траўня, у Менску пачаліся суды над арыштаванымі ўдзельнікамі першамайскага шэсьця. У Цэнтральны райсуд, дзе судзьдзя В. Есьман разглядаў справу Міколы Статкевіча, прыйшло шмат журналістаў. Але на пасяджэньне іх не пускалі, што выклікала пратэсты. Калі ж карэспандэнт "Народнай волі" Валерый Шчукін паспрабаваў прайсьці ў кабінет судзьдзі, трое міліцыянтаў павісьлі на ім. У выніку ўсе чацьвёра ўпалі на падлогу і капітан 2-га рангу, а цяпер журналіст, літаральна дапоўз да кабінету судзьдзі зь міліцыянтамі на плячах...

Міколу Статкевіча, які позву ў суд атрымаў яшчэ ў 9 гадзінаў раніцы 1 траўня (да пачатку акцыі), абвінавацілі па артыкуле 167[1] Кодэкса аб адміністратыўных правапарушэньнях. На думку судзьдзі, лідэр "Народнай Грамады" арганізаваў 1 траўня несанкцыянаванае шэсьце. Гаворка ішла пра першамайскае шэсьце, арганізаванае... Менгарвыканкамам на чале з мэрам У. Ярмошыным, у якім прынялі ўдзел і сацыял-дэмакраты. Такім чынам — пры чым тут М. Статкевіч? Судзьдзя адклаў суд на 12 траўня...

*(Працяг на стар. 7)*

---

і абмежаваную колькасьць наймаюць прыватных распаўсюджвальнікаў, на што выдаюць спецыяльныя пасьведчаньні. Ёсьць такі дакумент ад "Беларусской деловой газеты" і ў М. Раманава, і ў іншых. А значыць, гандаль іх цалкам законны. Дзеяньні ж міліцыянтаў — ёсьць ні што іншае, як парушэньне правоў чалавека на распаўсюджваньне і атрыманьне інфармацыі, парушэньне права на свабоду слова. Больш таго, за гэтым бачыцца парушэньне права грамадзяніна на працу (паколькі амаль усе распаўсюджвальнікі прэсы — беспрацоўныя) і права на жыцьцё наогул, бо ў іх гэта часьцей за ўсё адзіны сродак да існаваньня)...

Па вялікім жа рахунку, змаганьне з распаўсюджвальнікамі незалежных выданьняў — проста чарговая кампанія, накіраваная на зьнішчэньне альтэрнатыўнага каналу распаўсюджваньня прэсы. Бо гандляры нічога забароненага не прадаюць — усе газеты што яны прапануюць, можна купіць побач у шапіках і, дарэчы, танней. Дык якую ж небясьпеку грамадству і дзяржаве нясуць гэтыя людзі? Якую шкоду? За што ж зьдзекуюцца зь іх? За што штрафуюць і саджаюць у пастарунак? Можаце перапытаць яшчэ дзесяць разоў — але іншага лагічнага, вытлумачальнага адказу на гэтыя пытаньні няма...

**Андрэй НАЛІВА**

# "Выбар" зрабіў свой выбар

## Хроніка аднаго змаганьня

Да часу правядзеньня апошняга рэферэндуму практычна ніводзін зь сяброў віцебскай арганізацыі "Выбар" БНФ "Адраджэньне" ня меў неапратэставанага і неадмененага адміністратыўнага пакараньня. Дапамагала веданьне законаў і прытрымліваньне іх у сваёй грамадска-палітычнай дзейнасьці.

Пасьля рэферэндуму ў лістападзе 1996 г., удзел у якім прынялі 48, а не 80, як сьцьвярджаюць улады, адсоткаў выбаршчыкаў г. Віцебску ўсё зьмянілася.

Распачатая яшчэ ў 1996 годзе органамі КДБ крымінальная справа спачатку па арт. 63 КК РБ (тэрарыстычны акт), а потым па арт. 67 КК РБ (заклік да тэрарыстычнага акту) супраць аўтара верша "Убей президента" Славаміра Адамовіча, рэдактара газеты "Выбар" Барыса Хамайды і старшыні арганізацыі "Выбар" БНФ "Адраджэньне" Уладзіміра Плешчанкі, здавалася б, ад пачатку ня мела ніякай перспектывы. На судовым працэсе, распачатым у лістападзе 1996 г., і які працягваўся да чэрвеня 1997 г., даказаць вінаватасьць прыцягнутых да адказнасьці ўлады не змаглі. Абвінавачваемыя Б. Хамайда і У. Плешчанка ў часе сьледства паказаньняў не давалі, а ў судовым разборы заявілі, што надрукавалі верш сьвядома як мастацкі твор, за які ў дэмакратычнай краіне немагчыма прыцягнуць да адказнасьці.

На працягу ўсяго судовага працэсу газета "Выбар", нягледзячы на часовую канфіскацыю рэдакцыйнага кампутара, працягвала выходзіць. Верш быў надрукаваны яшчэ раз. Б. Хамайда прасіў далучыць да справы нумар газеты зь вершам, але суд на гэта ўвагі не зьвярнуў.

Пазіцыя сяброў арганізацыі "Выбар", пэўна ж, паспрыяла таму, што паэт С. Адамовіч быў вызвалены з-пад варты яшчэ да завяршэньня суда. Аднак улады усё ж пакаралі С. Адамовіча, Б. Хамайду і У. Плешчанку. Толькі ужо не па арт. 67 КК РБ, а па арт. 188 КК. РБ. які раней ня згадваўся ні ў часе сьледства, ні ў часе судовага разгляду, Згодна гэтага артыкула, суд знайшоў у вершы ня заклік да забойства, а абразу Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнкі. У дадатак кожнаму з трох прысудзілі аплочваць паслугі перакладчыка, бо падсудныя карысталіся беларускай моваю. А У. Плешчанку і Б. Хамайду — яшчэ і паслугі абаронцаў, ад якіх яны адмаўляліся з самага пачатку працэсу, бо зьбіраліся абараняцца самі.

Увесь 1997 год і па сёньняшні дзень сьледчыя Чыгуначнага РАУС ня могуць знайсьці злачынцаў, што 11 сьнежня, сярод белага дня, прылюдна, у цэнтры горада жорстка зьбілі Юрася Мароза, калі той распаўсюджваў незалежную прэсу.

Сёньня, мабыць, так ўжо не адбылося б, але, відаць, па інерцыі намагаючыся не выходзіць зь межаў законнасьці, у 1997 г. Першамайскі суд г. Віцебска пасля незаконага скарачэньня і больш як гадавога беспрацоўя аднавіў на працы на пасадзе інжынера-канструктара на вытворчым аб'яднаньні "Маналіт" старшыню арганізацыі "Выбар" Уладзіміра Плешчанку. Дарэчы, так адбылося ўжо ў другі раз. Першы раз У. Плешчанка быў скарочаны, а потым адноўлены на тым самым "Маналіце" яшчэ ў 1994 годзе. Зараз адміністрацыя на яго грамадска-палітычную дзейнасьць нібыта і не зьвяртае ўвагі, а ўменьне У. Плешчанкі цывілізавана і паслядоўна праз суд адстойваць свае правы выклікае сярод супрацоўнікаў толькі павагу.

Увесну 1997 года арганізацыя "Выбар" у адказ на выдадзены 5. 03. 97 г. дэкрэт Прэзідэнта, па якім да дробязяў рэгламентавана правядзеньне мітынгаў і шэсьцяў, забараненыя пікеты без дазволу ўладаў, павялічаныя штрафы да неверагодных памераў, актывізавала сваю грамадска-палітычную дзейнасьць, ладзячы пікеты з плакатамі на вуліцах Віцебска. Практычна сябры арганізацыі іграналі дэкрэт, бо ён супярэчыць заканадаўству, пабудаванаму на аснове Канстытуцыі 1994 г.

Першы такі пікет быў наладжаны 15 сакавіка 1997 г. — у дзень прыняцьця Канстытуцыі 1994 г. — на пляцы Волі ў самым цэнтры горада, насупраць будынка былога абкама партыі. Гэта адно з самых людных месцаў горада. Тут некалі ўпершыню адбыўся дэмакратычны мітынг. У далейшым улады горада дазвалялі на гэтым месцы праводзіць мітынгі і ладзіць пікеты толькі ўрадавым і прарасейскім арганізацыям: камуністам, Славянскаму Сабору "Белая Русь", ЛДПР альбо наладжвалі афіцыйныя сьвяткаваньні самі.

На плакатах пікетоўцаў былі заклікі абараняць Канстытуцыю 1994г., крытыка дзеяньняў прэзідэнта. Пікет доўжыўся каля поўгадзіны, а потым супрацоўнікі Кастрычніцкага РАУС сілаю заштурхалі найбольш актыўных удзельнікаў пікету Зміцера Піменава, Юрася Карпава, Барыса Хамайду і Уладзімера Плешчанку ў "варанкі" і адвезьлі ў пастарунак. Астатніх прымусілі разысьціся. У пастарунку на затрыманых склалі пратаколы і праз тры гадзіны выпусьцілі, прапанаваўшы назаўтра зьявіцца сюды зноў. Усе чацвёра гэтую прапанову іграналі. Напярэдадзе было 25 сакавіка і ўвязвацца ў судовыя працэсы ў гэтых умовах — марна губляць час. 23 сакавіка некаторыя сябры "Выбару" зьбіраліся прыняць удзел у мітынгу ў Менску. З гэтаю мэтаю яны і прыехалі 23 сакавіка ў Менск. У. Плешчанка і Б. Хамайда, захапілі з сабой для распаўсюджваньня газету "Выбар". Каля Чырвонага касьцёла на пляцы Незалежнасьці іх затрымалі супрацоўнікі Фрунзенскага РАУС г. Менску і даставілі ў паструнак, дзе на абодвух былі складзеныя пратаколы за распаўсюджваньне газеты. Пад вечар іх разам зь іншымі затрыманымі адвезьлі ў ізалятар часовага затрыманьня за межы Менска, а раніцаю 24 сакавіка даставілі ў суд.

Суд прысудзіў Барысу Хамайдзе 3 млн. руб. штрафу, а Уладзіміру Плешчанку — трое сутак адміністратыўнага арышту. Увечары 24 сакавіка ў сьпецпрыёмніку на Прылуцкай перад адбываньнем рэшты пакараньня — сутак з паловай — доктар замерыла ў У. Плешчанкі артэрыяльны ціск, даведалася, што ён некалі перанёс інфаркт і адмовілася прыняць яго для далейшага адбыцьця пакараньня.

Увечары 25 сакавіка сябры арганізацыі "Выбар" БНФ "Адраджэньне", як і 15 сакавіка, выйшлі на пляц Волі з плакатамі-віншаваньнямі віцяблянаў з гадавінай абвяшчэньня БНР і бела-чырвона-белымі сьцягамі. У 17.30 супрацоўнікі Кастрычніцкага РАУС заштурхалі пікетоўцаў у "варанкі" і адвезьлі ў пастарунак, склалі пратаколы правапарушэньня і праз тры гадзіны адпусьцілі, прапанаваўшы зьявіцца ў пастарунак на наступны дзень. Як і 15 сакавіка, затрыманыя вырашылі добраахвотна ў міліцыю не хадзіць.

Удзень 2 красавіка пры распаўсюджваньні незалежнай прэсы побач зь пляцам Волі, на самым людным у працоўны час мейсцы па вул. Леніна, быў затрыманы галоўны рэдактар газеты "Выбар" Барыс Хамайда. На грудзях у яго вісеў невялікі аркуш паперы з надпісам: "Беларусь, незалежнасьць, вясна". Супрацоўнікі Чыгуначнага РАУС даставілі яго ў пастарунак, а потым у суд. Судзьдзя Фёдараў вырашыў, што ўчынак Б. Хамайды патрапляе пад парушэньне дэкрэта Прэзідэнта № 5. Тым больш, што парушальнік заявіў, што не прызнае дэкрэты, выдадзеныя Прэзідэнтам. У выніку Б. Хамайда быў пакараны штрафам у 3 млн руб. З гэтай пастановы суда пачаліся шматмільённыя штрафаваньні сяброў арганізацыі "Выбар" за правядзеньне несанкцыянаваных пікетаў.

Таго ж дня ўвечары, як 15 і 25 сакавіка, арганізацыя наладзіла пікет на пляцы Волі. На адным з плакатаў, які трымаў Юрась Мароз, быў надпіс: "Пакуль на Беларусі кіруе Аляксандр Лукашэнка, яе ня прымуць ні ў НАТА, ні ў Расію, ні ў іншы саюз." Мэтаю пікета было выказаньне пратэсту супраць падпісаньня саюзнага пагадненьня паміж Беларусьсю і Расіяй. На пляцы практычна ўзьнік стыхійны мітынг. Але пабачыўшы міліцыю, большасьць людзей разьбеглася. Міліцыянты затрымалі Юрася Мароза, Уладзіміра Плешчанку, Барыса Хамайду, Юрася Карпава. Ізноў супрацоўнікі Кастрычніцкага РАУС, склаўшы пратаколы, іх адпусьцілі.

Праз некалькі дзён да ўсіх, хто быў затрыманы 15, 25 сакавіка і 2 красавіка, пачалі прыходзіць позвы. Не дачакаўшыся абвінавачваемых, суд Кастрычніцкага раёна г. Віцебска 16 красавіка пакараў Юрася Мароза штрафам у памеры 3 млн. руб., 5 траўня Зьміцера Піменава — 5 суткамі адміністратыў-




*На здымку: Юрась Мароз у пікеце ў Менску каля будынку суда, у якім праходзіў працэс над А. Шыдлоўскім і В. Лабковічам.*

нага арышту, 14 траўня Ю. Карпава штрафам у памеры 1 млн. руб., Б. Хамайду — 1 і 3 млн. руб., 15 траўня У. Плешчанку — 9 і 5 млн. руб., 26 чэрвеня Юрася Карпава адміністратыўным арыштам на 3 сутак.

4 красавіка, як і 2 красавіка, пры распаўсюджваньні незалежнай прэсы з тым жа плакатам "Беларусь, незалежнасьць, вясна" быў затрыманы Барыс Хамайда. На гэты раз той самы судзьдзя Фёдараў прысудзіў яму штраф ужо ў памеры 22,5 млн руб. Калі ж Барыс Хамайда выйшаў на тое ж месца каля "сіняга дома" з газетамі і плакатам "Я люблю Беларусь" 7 красавіка і быў дастаўлены супрацоўнікамі Чыгуначнага РАУС спачатку ў пастарунак, а потым да таго ж суддзі Фёдарава — той на гэты раз, відаць, пабаяўся караць, і Хамайду апраўдаў.

17 красавіка, у гадавіну наданьня Віцебску Магдэбургскага права быў наладжаны пікет каля таго ж "сіняга дома" Былі разгорнутыя два палотнішчы з надпісамі: "400 год таму ў Віцебску ўсталявалася сістэма самакіраваньня — магдэбургскае права!" і "А якое права зараз? Сядзець у турмах ды плаціць штрафы за тое, што хочам людзьмі звацца?" У 16 гадзінаў былі затрыманыя Барыс Хамайда і Уладзімір Плешчанка. Суды ўжо не працавалі, і абодвум выпісалі позвы на 21 красавіка.

21 красавіка Барыс Хамайда зьявіўся да свайго добрага "знаёмага" судзьдзі Фёдарава, і той яшчэ раз аштрафаваў яго на 22,5 млн. руб. У. Плешчанка на выклік у суд не зьявіўся.

26 красавіка, у гадавіну Чарнобыльскай катастрофы арганізацыя "Выбар" зноў наладзіла пікет каля "сіняга дома". У пікетоўцаў былі плакаты: "Новы саюз — новы Чарнобыль!" "Моладзь! Ствараў Беларускі вызвольны рух супраць расейскай акупацыі!" Напачатку міліцыянты пікетоўцаў не чапалі, але калі тыя рушылі ад "сіняга дома" да пляца Волі, схапілі Б. Хамайду і У. Плешчанку і адвезьлі ў Чыгуначны РАУС. У Кастрычніцкі РАУС крыху пазьней зь пляцу Волі даставілі Юрася Мароза.

Суд у гэты дзень не працаваў. Позвы былі выпісаныя на наступны дзень, але ніхто з затрыманых у пастарунак назаўтра не пайшоў.

Кожны дзень Барыс Хамайда ці Юрась Марозаў выходзілі на сваё мейсца да "сіняга дома" распаўсюджваць газеты. Часам па некалькі дзён міліцыянты іх нібыта не заўважалі. Але 29 красавіка Барыс Хамайда зноў быў затрыманы з газетамі і плакатам "Беларусь, незалежнасьць, вясна". На гэты раз судзьдзя Фёдараў адмовіўся разглядаць пратакол "правапарушэньня", а ўзяўся за пратакол, складзены на Барыса Хамайду 26 красавіка. У плакаце "Новы саюз — новы Чарнобыль", які нёс тады Б. Хамайда, судзьдзя ніякай шкоды рэжыму не знайшоў, а несанкцыянаванага пікету нібыта і не было. Бачна было, што на гэты раз ён не зьбіраўся караць Б. Хамайду. Склалася ўражаньне, што судзьдзю Фёдарава, як каня лейцамі, торгае нехта зьверху.

Калі ж па выкліку ў суд не зьявіліся ні Уладзімір Плешчанка, ні Юрась Мароз, ні Барыс Хамайда, той самы судзьдзя Фёдараў завочна прысудзіў 8 траўня штраф па 22,5 млн. руб. Юрасю Марозу і Уладзіміру Плешчанку за 26 красавіка, 3 млн. руб. штрафу Уладзіміру Плешчанку за 17 красавіка і 22,5 млн. руб. штрафу Барысу Хамайдзе за плакат "Беларусь, незалежнасьць, вясна" 29 красавіка.

Суд Кастрычніцкага раёна, пакуль Юрась Мароз знаходзіўся ў лякарні, 26 чэрвеня завочна пакараў яго адміністратыўным арыштам на 10 сутак за пікет 26 красавіка.

12 ліпеня, у часе адкрыцьця фестывалю "Славянскі базар", у 20 гадзінаў вечара, калі на ім з прамоваю выступаў прэзідэнт А. Лукашэнка, побач з "форумам", дзе было відовішча, сябры арганізацыі "Выбар" наладзілі сьпевы беларускіх прыпевак на вершы Ведзьмака-Лысагорскага "Лука-Мудзішчаў — прэзідэнт". Адны слухалі прамову прэзідэнта, другія — прыпеўкі пра яго. Міліцыя, відаць, была ў такім захапленьні ад прамовы кіраўніка, што не чапала выканаўцаў прыпевак, аж пакуль вакол іх не сабраўся вялізны натоўп. Слухачоў пачалі разганяць, а сьпевакоў заштурхоўваць у падагнаны "варанок". Падняўся неверагодны гвалт. Сьпевакі: Юрась Карпаў, Юрась Мароз, Барыс Хамайда і Уладзімір Плешчанка ў адну машыну не зьмяшчаліся. Давялося чакаць падмогу, якая не магла прабіцца праз натоўп. Ю. Карпава і Ю. Мароза пачалі зьбіваць. Потым "парушальнікаў" адвезьлі ў Чыгуначны РАУС і трымалі там да ночы, пакуль прэзідэнт ня зьехаў начаваць у пасёлак Руба.

27 ліпеня а шостай гадзіне раніцы Юрась Карпаў і Сяржук Серабро перад пляцам Волі на вул. Леніна на лініі сілкаваньня тралейбуса прымацавалі бел-чырвона-белы сьцяг. Патрульная машына затрымала Юрася Карпава і даставіла ў пастарунак. Там склалі пратакол і адвезьлі ў ізалятар часовага затрыманьня. 28 ліпеня Юрась быў дастаўлены ў суд Кастрычніцкага раёна г. Віцебску. Суд прысудзіў Карпаву 9 млн. руб. штрафу.

Сьцяг з правадоў сілкаваньня здымала выкліканая рамонтная брыгада.

Увечары 17 ліпеня, пад час закрыцьця фестывалю "Славянскі базар" побач зь пляцам Волі быў жорстка зьбіты Зьміцер Піменаў. Ён размаўляў зь сябрамі па-беларуску. Да аднаго зь міліцыянтаў звярнуўся са словамі: "Пан полісмэн!" Той адрэагаваў імгненна: "Как вы мне надаелі, паршывыя бэнэфавцы і в Мінске і сдесь в Віцебске!" — і накінуўся на Піменава. Падбеглі яшчэ некалькі міліцыянтаў, заштурхалі Піменава ў "варанок" і там пачалі жорстка зьбіваць. Ужо непрытомнага адвезьлі ў медыцынскі выцьвярэзьнік, дзе яго спачатку не хацелі браць, але туды хутка прыехаў намесьнік начальніка Кастрычніцкага РАУС падпалкоўнік Заблоцкі, перагаварыў зь дзяжурным выцьвярэзьніка, і апрытомнелага Піменава пакінулі там. Яму загадалі класьціся на ложак жыватом уніз. Калі ж адмовіўся — накінуліся, прывязалі да ложка і пачалі жорстка зьбіваць. Раніцай выпіхнулі з выцьвярэзьніка зьбітага, у падранай кашулі. Піменаў злавіў таксоўку і ў такім зьбітым выглядзе зьявіўся ў абласную пракуратуру. Судмедэксперты зьнялі пабоі, выклікалі "хуткую дапамогу". Піменаў быў накіраваны ў абласную бальніцу, дзе праляжаў у нейрахірургічным аддзяленьні 17 дзён. Пракуратурай Кастрычніцкага раёна была ўзбуджаная крымінальная справа па факце збіцьця Зьміцера Піменава, але і па сёньняшні дзень вінаватыя, як і ў выпадку зь Ю. Марозам, ня знойдзеныя.

**Н. К.**

*(Заканчэньне ў наступным нумары)*

# Падзеі Факты Каментарыі

(Пачатак на стар. 1)

*17 красавіка* — у газеце "Навіны" абмяркоўваецца рэгламентацыя палажэньня 33 Камітэта дзяржаўнай бясьпекі РБ, пра вынясеньне папярэджаньняў аб "недапушчальнасьці незаконных дзеяньняў". Адзін з лідэраў БНФ Вінцук Вячорка не сумняваецца, што гэты загад стане "псіхалагічнай дубінай" супраць іншадумцаў. Ён разглядае гэты загад, як "спробу дзяржавы легітымнымі сродкамі ўскладніць магчымасьці грамадзянаў займацца палітычнай дзейнасьцю і нават выказваць пасіўны пратэст".

*20 красавіка* — пракуратура Савецкага раёну г.Мінска парушала правы журналістаў на інфармацыю, безпадстаўна пагражала выклікаць міліцыю, забараняла здымаць нават фасад свайго будынку. Раённы пракурор Сіраш ледзь не арыштаваў здымачную групу ГРТ.

*21 красавіка* — у Вярхоўным судзе была разгледжаная апеляцыя па справе палітвязьняў А.Шыдлоўскага і В.Лабковіча. Прысуд пакінуты ў сіле.

*21 красавіка* — у гродзенскай газеце "Пагоня" зьмешчаны адкрыты ліст кіраўнікоў шматлікіх грамадскіх арганізацыяў да кіраўніцтва горада і вобласьці спыніць перасьлед "па палітычных матывах сябры прэзыдыума Вярхоўнага Савета 13 скліканьня" Сямёна Домаша. С.Домаш "ужо другі год ня можа знайсьці працу таму, што ён у свой час прагаласаваў у парламенце за адстаўку прэзідэнта", а цяпер яго зь сям'ёй пазбаўляюць жытла.

*22 красавіка* — за ўдзел у дэманстрацыі 22 сакавіка ў Мінску Вадзім Канапацкі асуджаны на дзесяць сутак зьняволеньня. Судзіў яго судзьдзя Цэнтральнага райсуда А.Барысёнак.

*22 красавіка* — у Гомелі з выставы мастака У.Міраненкі цэнзурай зьняты адзін з плакатаў з выявай беларускага прэзідэнта, намаляванага ў напалеонаўскай трохвуголцы.




*22 красавіка* — газета "Наша Слова" надрукавала копію дакумента Дзяржынскага эксперыментальна-механічнага завода, які знаходзіцца ў г.Дзержынску Менскай вобл. пра забарону вядзеньня дакументацыі на беларускай мове і яе вядзеньні толькі па-руску, падпісаны дырэктарам завода Быкоўскім.

*23 красавіка* — пасьля правядзеньня зьезду Саюза Пісьменьнікаў Беларусі, на якім прагучала рэзкая крытыка супраць антыбеларускай палітыкі, зьнішчэньня беларускіх школаў, штучнага абмежаваньня беларускай мовы, якую праводзіць прэзідэнт А.Лукашэнка, на памяшканьні беларускамоўных часопісаў і газетаў "Полымя", "Беларусь", "Літаратура і мастацтва" адбыўся напад і пагром іхніх памяшканьняў.

*24 красавіка* — адбыўся пікет у г. Наваполацку Віцебскай вобласьці ў абарону арыштаванага лідэра "Маладога Фронта" П.Севярынца. Затрыманы трое пікетчыкаў: Каханчык Анатоль, Салаўёў Зьміцер, Бандарэнка Алесь. Фотакарэспандэнту, які здымаў пікет, у РАУСе засьвяцілі фотастужку.

*24 красавіка* — адбылося пікетаваньне беларускага пасольства ў Маскве, у якім узялі ўдзел расійскія і беларускія арганізацыі.

*25 красавіка* — у Менску пасьля правядзеньня маніфестацыі і мітынгу, прысьвечаным гадавіне аварыі на чарнобыльскай атамнай электрастанцыі, была арыштавана вялікая група грамадзянаў Беларусі і Расеі, колькасьцю да пяцідзесяці чалавек. Арыштоўвалі асобы ў цывільным, зьбівалі тых, каго затрымлівалі, і нават нагамі.

**Сярод арыштаваных:**

*Алейнікава Алена* — 1978 г.н., сяброўка Грамадзянскага Форуму.

*Андрушчанка Дзяніс* — 1983 г.н.

*Булычова Дар'я* — грамадзянка РФ, 17 год

*Бырда Сяргей* — 1982 г.н., жыхар г.Гродна

*Гудкоў Канстанцін* — грамадзянін РФ, 1977 г.н.

*Гук Руслан* — 1978 г.н.

*Дайлідо Аляксей* — 1982 г.н.

*Ефіменка Алена* — 1982 г.н., жыхарка г.Гродна

*Казначэеў Пётр* — грамадзянін РФ, старшыня Антыфашысцкага Маладзёжнага Дзеяньня, яму інкрымінавалі крымінальную справу па зьнявазе беларускага прэзідэнта.

*Каляда Алег* — грамадзянін РФ, 1975 г.н.

*Камароўскі Сяргей* — 1980 г.н., жыхар г.Гродна

*Кашпар Яўген* — 1982 г.н., жыхар г.Гродна

*Крэшан Алесь* — 1983 г.н., жыхар г.Гродна

*Літвінка Аляксей* — 1983 г.н.

*Лобан* — жыхар г.Гродна.

*Мазурэнка Раман* — 1982 г.н.

*Міхальчык* — намесьнік старшыні суполкі БНФ у г.Гродна, пратрыманы ў прыёмніку-размеркавальніку 3-е сутак.

*Маркушэўскі Зьміцер* — 1978 г.н.

*Нікалаева Надзея* — 1980 г.н.

*Русецкі Міхась* — сябра Грамадзянскага Форуму, больш за 5 гадзінаў трымалі ў РАУСе, ня склалі пратаколу, але запатрабавалі напісаць "тлумачальную". Адпушчаны ў 2.40 ночы.

*Сьвінарэнка Аляксандр* — 1983 г.н.

*Суvotаў* — грамадзянін РФ, каардынатар "Эмнесты Інтэрнэйшнл".

*Тамашэўскі Сяргей* — 1981 г.н., жыхар г.Гродна

*Тарас Антон* — 1983 г.н., апраналі супрацьгаз, пераціскалі трубку, не давалі дыхаць.

*Целяпнёў Георгі* — грамадзянін РФ, 1977 г.н.

*Чырвоны Яўген* — 1978 г.н.

*30 красавіка* — газета "Навіны" паведаміла, што ў калоніі строгага рэжыму ў г.Горкі Магілёўскай вобласьці адбыліся хваляваньні зьняволеных, у якіх узялі ўдзел каля 600 чалавек. Зьняволеныя патрабавалі палепшыць ўмовы ўтрыманьня іх, пратэставалі супраць кепскага харчаваньня асуджаных... Калонія, дарэчы, "перанаселеная" зараз амаль у тры разы.

**Матэрыялы старонкі падрыхтаваны Прэс-службай Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96"**

# Цэнзары па ўласным жаданьні?

**Адміністрацыя менскай СШ № 37 аббінавацiла настаўніцу беларускамоўнага класа ў тым, што яна займаецца на ўроках у трэцім класе "палітычнай дзейнасьцю"...**

Нядаўна ў судзе Цэнтральнага раёна сталіцы Беларусі разглядалася адна з тых спраў. якія можна назваць тыповымі і нетыповымі адначасна. З аднаго боку, яна вельмі яскрава ілюструе як норавы ў сучасным беларускім грамадстве, так і стан, у якім апынулася сёньня беларуская школа. У той жа час пайсьці на такі крок — спроба бараніць праз суд свае гонар і годнасьць ад непасрэднага начальства — у наш час татальнага бясправаўя ня кожны здольны. Але настаўніца СШ № 37 г. Менска Леанарда Мухіна на гэта пайшла...

Сёлета ў сакавіку на адным з перапынкаў між урокамі адбыўся тэрміновы сход настаўнікаў, ініцыяваны адміністрацыяй СШ № 37. Падставу сходу абвясьціла дырэктарка школы В. Галкіна: на настаўніцу 3-га "Г" класу прыйшоў ліст-скарга ад бацькоў навучэнцаў, нібыта яна на ўроках "праводзіць палітыку БНФ, рыхтуе кадры для апазіцыі..." і ўвогуле, займаецца палітычнай дзейнасьцю. Вось як згадвае тыя падзеі маладая настаўніца беларускай мовы і літаратуры Тацьцяна Журавель: "Некалькі хвілін усе маўчалі. Першае пытаньне задала я: спытала, колькі бацькоў гэты ліст падпісалі. Адказ быў такі: "Хіба гэта мае значэньне на дадзены момант?" Потым нам сказалі, што падпісалася каля паловы класа"

Скажу адразу, што ліст, які стаў падставай для "разборак" з настаўніцай, ніхто потым так і ня ўбачыў. Толькі адна настаўніца-сьведка на судзе сьцвярджала, што "сама па просьбе бацькоў передала яго дырэктару", а потым "прачытала ўжо 10 красавіка". Журналістам яго не паказвалі (прэсу 21 красавіка ўвогуле не пусьцілі на судовае паседжаньне, яшчэ раней ад роспытаў карэспандэнта "Радыё Свабода" Э. Тарлецкага літаральна фізічна адбіваўся загадчык Цэнтральнага РАНА Ю. Канзас). Далейшыя "штрыхі" да гэ-тага гістарычнага дакумента пакідаюць надта шмат падазрэньняў, што той "дакумент" — хутчэй за ўсё фальшыўка. Мяркуйце самі. Адна са сьведкаў кажа: бацькі пісалі скаргу самі — а загадчык РАНА у "кулуарах" сьцьвярджае, што зусім не пісалі, а толькі падпісвалі. Іншымі словамі, ставілі подпісы пад пэўным тэкстам? Так. Тады — чыйго ён пяра і аўтарства? Няма адказу... Што ж да колькасьці "падпісаў" незадаволеных і абураных бацькоў — вазьму на сябе сьмеласьць сьцьвярджаць, што і гэтая лічба была "дакладна" вызначаная "зьверху". Дырэктарка 37-й школы, старанна падагнуўшы паперку з усіх бакоў, паказала — такі мне той-нетой, але нейкі пісаны з граматычнымі памылкамі ліст. (Як зьвярнула маю ўвагу спадарыня Галкіна, памылкі — знак таго, што пісалі менавіта бацькі, а ня "сеяцелі разумнага, добрага вечнага"). Сказ з прадэманстраванай ксеракопіі: "Зь дзейнасьцю Мухінай, зьвязанай з прыцягненьнем дзяцей да палітыкі, ня згодна 18 чалавек". Не пераконвае. Надта нагадвае разнарадку!

А тут, як на тое, пасьля скончэньня працэсу настаўніца матэматыкі, страціўшы ўвесь свой ваяўнічы імпэт, вымаўляе, як апраўданьне: "Вы ж зразумейце, чаму ліст атрымаўся ананімным... Бацькі хацелі прыйсьці выступіць у суд, але мы самі іх ня хочам уцягваць"... Вось і прыехалі! Значыць, настаўніцы беларускамоўнага класа, актывісткі Таварыства Беларускай Мовы наладзілі абструкцыю, прыкрываючыся звычайнай ананімкай? Нездарма ж калегі Леанарды Станіславаўны сталі потым патрабаваць разабрацца ці быў ліст і згадваць пра метады 37-га году...

Праўда, разьбірацца, зноў жа, можна па-рознаму. Адміністрацыя 37-й школы катэгарычна забараніла Мухінай праводзіць дзеля высьвятленьня прычынаў незадаволенасьці бацькоў іхні сход. Каб "ня ўцягваць"... Каб "не расколваць"... І калі, па словах адміністрацыі, усю школу ажно калоціць ад гэтай гісторыі, то незразумела, навошта "ад школы" тую гісторыю хаваць. Атрымліваецца, канфлікт, зручней, гэтак мовячы, загнаць углыб, падалей ад чужых вачэй...

Абарона ў судзе дырэкцыі школы і ейнага раённага начальства выглядала серыяй "атак" на беларускамоўную настаўніцу. І дзеці яе нібыта сталі вучыцца горш, і ўлёткі нейкія быццам бы ў іх знаходзілі, і пыл замест прыбіральшчыцы настаўніца не выцірае, і — "які жах: у яе бачылі апазіцыйную газету!.." Чым больш я слухала, тым больш перада мной адкрываўся прыніжаны стан, запалоханасьць, а часам — сапраўднае дзікунства, да якіх давялі частку педагогаў. Калі казка, друкаваная "тарашкевіцай", ці падпіска на газету ТБМ "Наша слова" для педагогаў — "жах", ім можна толькі паспачуваць!

Калегія пад старшынствам судзі Т. Злобіч вынесла рашэньне: у зыску Л. Мухінай у абарону свайго гонару і годнасьці — адмовіць. Дырэкцыю і РАНА, такім чынам — "адмылі". Чыстыя, чэсныя, незаплямленыя... Але калі іхнія вучні, а таксама і ўласныя дзеці, праз колькі год спытаюць: што вы рабілі ў змрочныя для Беларусі часы? — ім трэба будзе адказваць. Як трэсьліся яны за "гадзіны"- урокі, за "хоць які" заробак, як хлусілі, што "беларускія школы, на жаль, зачыняюцца па жаданьню бацькоў" (словы Ю. Канзаса)... Як цкавалі тых, хто любіць Беларусь. Ніхто з бацькоў так і не прызнаўся ў сваёй абуранасьці "дзейнасьцю" настаўніцы Л. Мухінай. На тле агульнай скіраванасьці ўсіх гутарак не на падробку-ананімку, а на высьвятленьне адносінаў да апазіцыйных рухаў адчуваецца "рука" і "лікбез" сп. Канзаса. Як вядома, менавіта гэты чалавек некалі ўзначальваў школу, дзе вучыцца засуджаны рэжымам патрыёт Вадзім Лабковіч. А пасьля сумнавядомага рэферэндуму пра статус беларускай мовы, першы ў раёне пакасаваў у сваёй школе беларускія класы...

Таму намер Леанарды Станіславаўны бараніць сваю годнасьць далей — гэта імкненьне дбаць пра гонар Беларусі.

**Тацьцяна СНІТКА**

---

# "Свята працы" для ахоўнікаў рэжыму

*(Пачатак на стар. 3)*

Тым часам у другім судзе — Маскоўскага раёну — разглядаліся справы іншых затрыманых. Сярод іх не было кіраўніка Асацыяцыі падтрымкі незалежнай прэсы Андрэя Завадскага, якога пры затрыманьні моцна зьбілі, але ўсё ж адпусьцілі. Тром сябрам "Маладой Грамады" — Зьміцеру Марчуку, Паўлу Хаўроціну і Аляксею Герасімаву — па тым жа 167-ым артыкуле прысуджана па трое сутак арышту (якія хлопцы ўжо адбылі). Мікола Колас атрымаў папярэджаньне .Некалькі іншых затрыманых запатрабавалі адвакатаў — іхнія справы судзьдзя Жана Лявіцкая перанесла было на 8-е траўня. Глеб Кухаронак з "МГ" быў прызнаны невінаватым Разгляд справаў яшчэ працягваўся, калі ў судзе зьявілася адвакат М. Статкевіча Вера Стрэмкоўская, якая паведаміла пра адкладзены суд над лідэрам "Народнай Грамады". Узьнікла двухсэнсоўная сітуацыя: на адным канцы Менску судзьдзя В. Есьман высьвятляе ці было ўвогуле несанкцыянаванае шэсьце, а на другім іншы судзьдзя Ж. Лявіцкая выносіць пакараньні за шэсьце... якое, мажліва, і не было несанкцыянаваным... Да таго ж, яна надта дзіўна ставіцца да адных і тых жа "парушэньняў": аднаму дае трое сутак, другога папярэджвае, а трэцяга і ўвогуле апраўдвае (за што ж ён тады тыя трое сутак адседзеў?)

У рэшце рэшт справы маладафронтаўцаў Кірылы Егідзіна, Алеся Новікава, Сяргея Марцалева (ён, дарэчы, трое сутак за кратамі трымаў галадоўку), сябра "Народнай Грамады" Алеся Станкевіча і сябра БНФ Лявона Ачапоўскага былі адкладзеныя на 13-е траўня. Зразумела, вынікі іх разгляду наўпрост будуць зьвязаныя з вырашэньнем справы М. Статкевіча ў Цэнтральным судзе. Лідэр "НГ" можа быць апраўданы. Але тады паўстане пытаньне: за што ён і ягоныя паплечнікі адседзелі ў сьледчых ізалятарах па трое сутак?

**Я. Ж.**

# У спратах "Валадаркі"

## Калонія-3

"Кіча" была разьмешчаная ў сутарэньні пад баракам адміністрацыі — некалькі камераў, якія зьнешне нагадвалі "адстойнікі" "Валадаркі". Шэрыя шурпатыя сьцены і закратаваныя акенцы на ўзроўні зямлі. У адной з камераў трымалі асуджаных "бяз вываду", у астатніх — дробных парушальнікаў рэжыму. Прынамсі, пры мне гэтыя памяшканьні не пуставалі ніколі. Самымі галоўнымі парушэньнямі рэжыму ў калоніі пасяленьня лічацца ўцёкі і ад-мова ад працы. Узімку, калі ў калоніі для большасьці асуджаных няма працы і не хапае харчаваньня, уцёкі робяць наўмысна, каб патрапіць спачатку на "кічу", а пасьля — на "зону".

Усіх, каго прывозяць у калонію па другому разу (з працоўных аб'ектаў) без разбору садзяць на "кічу". У камеры памерам тры на чатыры метры, куды мяне прывялі, ужо сядзелі тры чалавекі. Як пазьней высьветлілася, іх забралі з працы — кантралёр адчуў пах алкаголю. У адрозьненьне ад зоны, дзе на "кічы" праз дзень выдаюць "палажняк", тут даводзіцца разьлічваць на шчасьлівы выпадак: можа, цябе ўбачыць знаёмы і перадасьць табе нейкую пайку. Увечары, перад тым як дзяжурны мент дазволіць узяць цёплую вопратку (на дзень яе забіраюць) і легчы спаць, трэба па даўняй турэмнай традыцыі падкарміць "Борку" (вялікага пацука), каб пацукі, што вылазяць з-пад падлогі ў пошуках ежы, не пагрызьлі адзеньне, а то і — самога чалавека.

Зранку наступнага дня мне пашанцавала: памочнік дзяжурнага па калоніі прапаршчык Косьця прынёс пайку. На жаль, прапаршчык дэманстратыўна вываліў кашу з паўлітровага слоіка ў памыйны бачок. Пры гэтым ён дастаў са слоіка запакаваныя ў поліэтыленавы пакунак некалькі цыгарэт і запалкі. "Сёньня ты не паясі і не пакурыш", — зьдзекліва вымавіў Косьця. У той момант я яшчэ ня ведаў, хто зрабіў мне "падагрэў" (дапамогу). Але ж было відавочна іншае: нехта на мяне "настукаў", бо на пайку маіх сукамернікаў прапаршчык не зьвярнуў увагі. Стукацтва ў калоніі — зьява распаўсюджаная. Кожны, хто марыць выйсьці адсюль па УДО (умоўна-датэрміновае вызваленне) па палавінцы, вымушаны ісьці на змову зь мянтамі. Чым болей людзей ён заклaдзе (гэта будзе сьведчыць пра ягонае перавыхаваньне), тым хутчэй ён пакіне гэтую ўстанову.

На трэція суткі, калі высьветлілася, што ад працы я не адмаўляўся і ніякіх парушэньняў рэжыму ў мяне не было, а патрапіў я на "кічу", уласна, па ініцыятыве прапаршчыка Аляксандровіча, мяне выправілі на зону.

У калоніі ўсе асуджаныя жывуць "сем'ямі" — па чатыры-пяць чалавек. Невялікімі калектывам у гэтых умовах прасьцей выжыць. Агульныя грошы, харчаваньне, цыгарэты, якія разьмяркоўваюцца на ўсіх пароўну.

Вясной 1997 году вызваляліся апошнія партыі тых, хто патрапіў пад амністыю, таму праблемы заняць добры "шканар" (мейсца) не было. У "сям'і" я стаў чацвёртым. Запрасіў мяне ў яе былы супрацоўнік Брэскага драмтэатра, зь якім у мяне былі агульныя знаёмыя на волі, і якога тры месяцы таму я "падагрэў" у копцеўскім бараку. Да вызваленьня мне заставаўся месяц і тры дні, і таму ірвацца на працу не хацелася, тым болей, што грошай за яе ўсё адно не пабачыш. За тры месяцы працы ў саўгасе "Копцеўскі" я перагрузіў 300 тон салетры, а грошай атрымаў на два пачкі гарбаты і пачак цыгарэтаў.

У сярэдзіне траўня быў новы этап з Гомля, і да нашай "сям'і" далучыўся яшчэ адзін чалавек. Ім стаў былы дырэктар гандлёвага цэнтру зь Пінску. Ён меў выгляд схуднелага хворага чалавека. На працягу адзінаццаці месяцаў, праведзеных у СІЗА, яму давялося прайсьці праз восем судоў, але даказаць сваю невінаватасьць ён ня змог. Прычынай ўзбуджэньня крымінальнай справы паслужылі адносіны зь мясцовым пракурорам, якому дырэктар адмовіў у просьбе ўзяць на працу яго пляменьніка-алкаголіка. Дырэктара абвінавачвалі ў выкарыстаньні службовага становішча ва ўласных мэтах, і ў тым, што на працы скарыстоўваў уласную тэхніку. За адзінаццаць месяцаў новых доказаў злачынства не знайшлі, і дырэктару быў вынесены прысуд — залічыць год, праведзены ў СІЗА, як пакараньне, а на 18 дзён, якія засталіся, адправіць у калонію пасяленьня.

Чым бліжэй надыходзіць час вызваленьня, тым даўжэй і марудней цягнуцца дні, хаця адміністрацыя калоніі сумаваць не дае. Пяць разоў на суткі цябе правяраюць. Тры разы ў дзень — паймена, і два разы сярод ночы — ў "хату" урываецца мент, запальвае сьвятло, і знарок пачынае грукатаць абцасамі. Вольнага часу ў калоніі амаль няма, нават, калі цябе не выводзяць на працу. Увесь час ты знаходзішся навідавоку, а мянты, пачынаючы ад опера і атраднага да дзяжурнага і прапаршчыка-кантралёра, імкнуцца цябе нечым заняць. Іншым разам даходзіць да абсурду. Узімку — прымушаюць бясконца мыць барак альбо перакідваць сьнег, а вясною ці летам — працаваць у цяпліцы, пабудаванай для адміністрацыі на тэрыторыі калоніі. У горшым выпадку — можа быць "збор гербарыя": на працягу дня даводзіцца поўзаць уздоўж барака і па адзінай травінцы зьбіраць букет, пакуль ня вышчыплеш увесь газон. Першы дзень "зьбіраньня гербарыя" для майго новага "сямейніка" ледзь ня скончыўся трагічна. У згорбленым стане ён змог прастаяць гадзіну, пасьля чаго страціў прытомнасьць і зваліўся долу. Прапаршчык, які назіраў за гэтым працэсам, пхнуў яго нагой і загадаў устаць. Але ён ня змог... Калі дзяжурны пабачыў, што ў асуджанага закаціліся пад лоб вочы, то выклікаў "хуткую дапамогу". Пасьля некалькіх уколаў асуджаны дырэктар гандлёвага цэнтра апрытомнеў.

Гэты выпадак насьцярожыў мянтоў і бліжэйшыя некалькі дзён дырэктара не чапалі. Яны ведалі, што адседзеўшы адзінаццаць месяцаў у беларускім СІЗА, выйсьці на волю здаровым чалавекам практычна немагчыма.

**Мікола КАЧАН**

*(Працяг будзе)*

*Працяг. Пачатак у № 2-3,5-7*

# "Падагрэў" з волі

**Што і ў якой колькасьці можна перадаць вашаму роднаму, блізкаму, сябру, знаёмаму, які патрапіў у СІЗА альбо турму...**

***Адна перадача ("падагрэў") з волі асуджанаму ці падсьледчаму можа важыць да васьмі кілаграмаў (у гэтую вагу ўваходзяць толькі харчы, рэчы ня ўлічваюцца). Гэта няшмат, калі ўлічыць, стан, у якім знаходзяцца сёньня беларускія месцы зьняволеньня і тое, што жывуць і выжываюць там зэкі толькі надзеямі на "падагрэў". Такім чынам, што найлепей перадаваць?***

*Харчы:*

**1. Сала — 1,75 кг.**
**2. Каўбаса (доўгатэрміновага захоўваньня) — 1 кг.**
**3. Гарбата (паболей) 500 гр. — высыпаная ў празрыстыя пакункі. (Можна каву — 250 гр.)**
**5. Цыбуля — 0,5 кг., часнык — 1кг., лімоны — 1кг.**
**6. Цукеркі (карамелькі) 1 кг.**
**7. Маргарын "Рама" — 0,5 кг.**
**8. Канцэнтрат булёну — 250 гр., цэвіта — 250 гр.**

*Рэчы:*

**Прадметы асабістай гігіены (зубная шчотка і г. д.) павінны быць новымі, бялізна, шкарпэткі — таксама.**
**Цыгарэты (паболей) выцягнутыя з пачкаў і перавязаныя ніткамі. Запакаваныя ў празрысты цэлафанавы пакутак.**
**Дазволеныя аднаразовыя станкі для галення.**
**Бінт, ёд, зялёнка, бактэр. пластыр. Сурвэткі.**
**Папера і аловак ці ручка.**

**Права на волю. Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96"**
**Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах. Наклад 299 асобнікаў.**
**Адрас рэдакцыі: 220007 Менск, а/с 88. Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ.**

*У нумары скарыстаны малюнкі А. Карповіча і фотаздымкі з архіву Цэнтра "Вясна-96"*